№№97–98
(3636–3637)

22 чэрвеня 2012 г.

Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

**Да ўвагі!**

*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

Якуб КОЛАС

ГАЗЕТА—ЧЫТАЧЫ

## Вас чакаюць сенсацыі...

### *І яны абавязкова знойдуць адлюстраванне на старонках «Народнай Волі»*

*Так, бліжэйшыя месяцы будуць настолькі багатымі на сенсацыі, што грэх не мецъ пад рукамі "Народную Волю". Якая яшчэ газета так прафесійна і праўдзіва адлюструе ўсе падзеі, якія будуць адбывацца падчас парламенцкіх выбараў у Беларусі! Знойдуць сваё месца і іншыя хвалюючыя тэмы.*

*"Народная Воля" не служыць ураду.*

*"Народная Воля" не служыць партыям.*

*"Народная Воля" не служыць алігархам.*

*"Народная Воля" служыць Вам, шаноўныя чытачы!*

*Дык застаемся разам і ў другой палове 2012 года. Нагадваем: да заканчэння падпіскі — 5 дзён. Не спазніцеся! Вас чакаюць на пошце, а мінчан — яшчэ і ў спецыялізаваных пунктах "Белсаюздруку".*

*Не здрадзім нашаму сяброўству!*

**Рэдакцыя газеты "Народная Воля".**

ВЫБАРЫ-2012

## Усё па плане!

Цэнтральная камісія па правядзенні выбараў і рэферэндумаў зацвердзіла план правядзення выбараў у Палату прадстаўнікоў і Савет Рэспублікі.

Вылучэнне прадстаўнікоў у склад акруговых выбарчых камісій будзе праходзіць да 6 ліпеня, а зацвярджэнне складу камісій — не пазней за 9 ліпеня.

Участкі для галасавання будуць створаны да 21 ліпеня.

Вылучэнне прадстаўнікоў ва ўчастковыя выбарчыя камісіі пройдзе да 5 жніўня, а сфарміраваны яны павінны быць не пазней за 8 жніўня.

Вылучэнне кандыдатаў у дэпутаты будзе праходзіць з 15 ліпеня па 13 жніўня, а іх рэгістрацыя — з 14 па 23 жніўня. Адразу пасля гэтага пачнецца агітацыйная кампанія.

Парламенцкія выбары, нагадаем, пройдуць 23 верасня.

### ДАРЭЧЫ

*"Назіральнікі ад АБСЕ будуць прысутнічаць на парламенцкіх выбарах з улікам міжнародных абавязацельстваў краіны, якія мы свята выконваем",* — паведаміла журналістам старшыня ЦВК Лідзія Ярмошына.

У той жа час яна не змагла назваць тэрміны, на працягу якіх прадстаўнікі АБСЕ змогуць назіраць за выбарчай кампаніяй. Паводле яе слоў, гэта будзе залежаць ад рашэння МЗС Беларусі, які і будзе накіроўваць ім запрашэнне.

Нагадаем, што раней прадстаўнікі афіцыйнага Мінска палохалі, што больш еўрапейскіх назіральнікаў на выбары запрашаць не будуць.

### *Падзялілі*

*Цэнтрвыбаркам прыняў пастанову аб стварэнні выбарчых акруг па выбарах дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў 5-га склікання.*

Будзе 110 выбарчых акруг — па колькасці дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў. Больш за ўсё акруг у Мінску — 20. Далей ідуць Мінская і Гомельская вобласці — па 17 акруг, затым Брэсцкая — 16, Віцебская — 14, Магілёўская і Гродзенская — па 13.

Сярэдняя колькасць выбаршчыкаў на акругу складзе 64.597 чалавек.

ПЕРАКЛІЧКА

## *АГП будзе здымаць кандыдатаў*

Аб'яднаная грамадзянская партыя правядзе 28 ліпеня пазачарговы з'езд, асноўным пытаннем якога стане вылучэнне кандыдатаў для ўдзелу ў прызначаных на 23 верасня выбарах у Палату прадстаўнікоў.

Пра гэта паведаміў намеснік старшыні партыі Леў Марголін па выніках пасяджэння палітсавета АГП.

Па словах Марголіна, з'езд пройдзе ў дзве сесіі. *"Першая сесія пройдзе 28 ліпеня. На ёй мы вылучым так званых "кандыдатаў у дэпутаты". Наша стратэгія застаецца нязменнай: партыя будзе вылучаць не кандыдатаў, а спікераў — людзей, якія данясуць пасланне АГП да выбаршчыкаў. Меседж будзе такі: Лукашэнка і яго сістэма — гэта тупік, выхад з тупіка — гэта свабодныя выбары. Сёння іх няма. І мы прапануем грамадзянам пачаць кампанію за тое, каб у Беларусь прыйшлі выбары",* — адзначыў Леў Марголін.

Галоўная задача кандыдата-спікера, па задумцы партыі, — інфармаваць як мага больш людзей. Кандыдаты ў дэпутаты будуць выкарыстоўваць магчымасці дзяржаўнага тэлебачання і радыё, але не будуць выкарыстоўваць дзяржаўныя грошы, выдзеленыя ім для друку ўлётак. Кандыдаты АГП павінны будуць зняцца з выбарчай гонкі за пяць дзён да выбараў, як толькі пачнецца датэрміновае галасаванне.

*"Таму 15—16 верасня мы правядзём другую сесію з'езда тым жа складам і на ёй здымем сваіх спікераў з выбарчай кампаніі. Хутчэй за ўсё будзе так. Бо няма ніякіх змен у практыцы правядзення выбараў, за кратамі застаюцца палітычныя зняволеныя, няма свабоды СМІ і гэтак далей",* — сказаў Марголін.

Таксама, паведаміў Леў Марголін, да 6 ліпеня АГП вылучыць свае кандыдатуры ў акруговыя выбарчыя камісіі

Дарэчы, кіраўнік партыі Анатоль Лябедзька таксама будзе весці інфармацыйную кампанію як кандыдат у дэпутаты.

### У ТОЙ ЖА ЧАС...

Не ўсе партыйцы падпарадкуюцца партыйным рашэнням аб зняцці з выбараў. Першым пра гэта заявіў кіраўнік Асацыяцыі малога і сярэдняга прадпрымальніцтва, член АГП Сяргей Балыкін.

Ён прыняў рашэнне ўдзельнічаць у парламенцкіх выбарах у якасці беспартыйнага кандыдата. У чацвер, 21 чэрвеня, Балыкін перадаў заяву аб прыпыненні сяброўства ў Аб'яднанай грамадзянскай партыі, таму што не мае намеру здымаць сваю кандыдатуру за пару дзён да галасавання, як таго патрабуе партыя.

## *Партыя БНФ яшчэ на нешта спадзяецца*

У гэту суботу Партыя БНФ правядзе пашыраны сойм з удзелам патэнцыяльных кандыдатаў у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў. На ім і будзе абмяркоўвацца пытанне "Пра выбары-2012".

На сойме плануецца прыняць пастанову аб прызначэнні з'езда Партыі БНФ, які вылучыць кандыдатаў ад партыі. Як і ў плане АГП, чакаецца, што з'езд пройдзе ў дзве сесіі: на пачатку жніўня — дзеля вылучэння кандыдатаў і ў верасні — дзеля прыняцця рашэння аб зняцці кандыдатаў. Праўда, пакуль пра тое, што кандыдаты БНФ адназначна здымуцца напярэдадні дня галасавання, не гаворыцца. Партыя абяцае гэта зрабіць пры невыкананні ўладамі ўмоў для правядзення справядлівых выбараў.

## *Камуністы — наперад!*

"Фармат удзелу партыі ў выбарах вызначыць пленум Цэнтральнага камітэта. Пакуль ёсць толькі асабістае меркаванне асобных кіраўнікоў партыі наконт абавязковага ўдзелу ў выбарах, але няма фармалізаванага рашэння партыі".

Так пракаментаваў магчымасць удзелу Беларускай партыі левых "Справядлівы свет" у прызначаных парламенцкіх выбарах член ЦК Сяргей Вазняк.

Асабіста Сяргей Вазняк прытрымліваецца думкі, што "трэба ісці на выбары, і ісці да канца". Хаця сам Вазняк кандыдатам у дэпутаты не будзе балатавацца, бо пасля апошняй выбарчай кампаніі быў асуджаны як арганізатар беспарадкаў.

## *Сацыял-дэмакраты: хто што хоча — тое і робіць*

Старшыня Брэсцкай абласной арганізацыі Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада) Ігар Маслоўскі паведаміў, што яны будуць вылучаць кандыдатаў у дэпутаты. Але аднаго-трох чалавек.

Тым не менш Ігар Маслоўскі гаворыць: *"Мы збіраемся прыняць паўнавартасны ўдзел у кампаніі на ўсіх этапах — ад вылучэння прадстаўнікоў у выбарчыя камісіі да вылучэння кандыдатаў у дэпутаты — і да апошняга дня".*

Паводле яго слоў, па рашэнні цэнтральнага кіраўніцтва партыі рэгіёны вызначаюцца самі з фарматам удзелу ў парламенцкай кампаніі. Адна ўмова — не перашкаджаць адзін аднаму.

## *БХД: Толькі байкот!*

Аргкамітэт па стварэнні партыі "Беларуская хрысціянская дэмакратыя" ў выбарах удзельнічаць не будзе.

*"Я б не сказаў, што гэта байкот выбараў, бо выбараў у Беларусі няма. А байкот фарсу, падману беларускага народа, які будзе праходзіць пад шыльдай правядзення выбараў у Рэспубліцы Беларусь. Ніводная ўмова дэмакратычных сіл не была выканана. Палітвязні знаходзяцца за кратамі, і на іх аказваецца ўсё большы ціск. Няма ніякіх змен у выбарчым заканадаўстве, у сітуацыі з грамадскімі арганізацыямі і палітычнымі партыямі, свабодай СМІ. Кожны сумленны палітычны дзеяч, незалежны ад Лукашэнкі, павінен ужо сёння даць ацэнку гэтым выбарам. Казаць пра тое, што іх ужо сёння нельга прызнаваць, ужо сёння можна казаць, што гэтыя выбары несвабодныя і недэмакратычныя",* — заявіў адзін з лідараў БХД Віталь Рымашэўскі Радыё Свабода.

## *Время отдавать*

Платежи по внешнему долгу Беларуси в нынешнем году увеличатся в 2 раза — до 1,6 миллиарда долларов. Об этом сообщил министр финансов **Андрей Харковец.**

За 2011 год Беларусь выплатила по долгам приблизительно 800 миллионов долларов.

СУМНАЯ ДАТА



**71 год таму мірнае жыцце нашай зямлі было парушана вайной. 22 чэрвеня 1941 года - "чорны дзень" нашай памяці.**

УВАГА!

## *Праезду няма!*

*Да 15 кастрычніка закрыты рух усіх відаў транспартных сродкаў праз пункт пропуску "Грыгараўшчына", што на мяжы з Латвіяй.*

Для перасячэння беларуска-латвійскай мяжы Дзяржаўны мытны камітэт рэкамендуе выкарыстоўваць аўтадарожны пункт пропуску "Урбаны—Сіленe", расійскі пункт пропуску "Бурачкі—Церахава", у тым ліку пры руху ў краіны Еўрапейскага Саюза іншыя пункты пропуску, размешчаныя на беларускім участку вонкавай мяжы Мытнага саюза.

Памежны пераход "Грыгараўшчына" знаходзіцца ў Верхнядзвінскім раёне, на дарозе Полацк—Дзвінск (Даўгаўпілс). Пераход "Урбаны" знаходзіцца каля Браслава, на час закрыцця "Грыгараўшчыны" ён застанецца адзіным месцам, дзе можна праехаць на машыне праз беларуска-латвійскую мяжу.

## *Пражытачны мінімум для чалавека меншы, чым для сабакі*

**"600 грамаў круп, кілаграм субпрадуктаў другой катэгорыі ці 400 грамаў мяса, 300 грамаў гародніны",** — такая сутачная норма на дарослую аўчарку ў кіналагічным цэнтры Пагранічнага камітэта.

Чалавек, згодна з афіцыйна зацверджаным пражытачным мінімумам у 743 тысячы рублёў, харчуецца больш сціпла. За дзень ён можа дазволіць сабе 400 грамаў хлеба, 40 грамаў макароны і столькі ж мяса.

Як паведамляе "Еўрарадыё", штомесяц на аднаго сабаку дзяржава выдаткоўвае больш за мільён рублёў. Гэта прыкладна ў 1,5 раза больш, чым для чалавека.

ПРАМАЯ ЛІНІЯ

## *«Ля апарата — галоўны рэдактар...»*



*29 чэрвеня з 15 да 17 гадзін на "Прамой лініі" будзе заснавальнік, выдавец і галоўны рэдактар газеты "Народная Воля"* ***Іосіф СЯРЭДЗІЧ.***

*Падчас дыялогу з чытачамі ён гатовы абмеркаваць самыя розныя тэмы — ад пытанняў асабістага характару да дзяржаўных.*

*Адным словам, заснавальнік, выдавец і галоўны рэдактар "Народнай Волі" ў чарговы раз выклікае агонь на сябе. Тэлефон —* ***328-68-41****. Калі па нейкіх прычынах Вы не зможаце ў вызначаны час звязацца па тэлефоне, напішыце ліст у рэдакцыю з пазнакай* ***"Дыялог з галоўным рэдактарам".*** *Можна накіраваць пытанні і па электроннай пошце* ***nv@promedia.by****.*

СІТУАЦЫЯ

## *Спецдакладчык ААН спрабуе прабіцца ў Беларусь*

Спецыяльны дакладчык ААН у справе становішча праваабаронцаў **Маргарэт Сэкагія** падчас сустрэчы з беларускімі журналістамі ў Жэневе расказала, што плануе паўтарыць зварот да беларускіх улад аб дазволе наведаць Беларусь.

*"Я хацела б наведаць Беларусь, і адпаведная заяўка была пададзена прадстаўніку Рэспублікі Беларусь у ААН, але адказу не было. Цяпер плануецца падаць паўторны зварот, але практыка такая, што беларускія прадстаўнікі не абавязаны тлумачыць ні адмовы, ні затрымкі з адказам, яны і не тлумачаць нічога",* — адзначыла Маргарэт Сэкагія.

Калі паўторны зварот адносна магчымага візіту ў Мінск эксперта ААН будзе праігнараваны, Маргарэт Сэкагія плануе наведаць Вільнюс і там сустрэцца з беларускімі актывістамі, прадстаўнікамі грамадзянскай супольнасці і праваабаронцамі.

Сёлета ўвесну прадстаўнік беларускай афіцыйнай дэлегацыі ў ААН ужо даваў тлумачэнні па справе асуджанага праваабаронцы Алеся Бяляцкага на пасяджэнні Савета ААН па правах чалавека, калі абмяркоўвалі гадавую справаздачу спецдакладчыка ААН Маргарэт Сэкагія аб становішчы праваабаронцаў. Афіцыйны беларускі прадстаўнік заявіў, што прысуд "не меў дачынення да праваабарончай дзейнасці Бяляцкага".

СКАНДАЛ

## Турэмны бунт, *ці Што адбылося ў Івацэвіцкай калоніі?*

У рэдакцыю "Народнай Волі" прыйшоў ліст з папраўчай калоніі №22, якую ў народзе называюць "Воўчыя норы". Аўтары яго — людзі, якія адбываюць там пакаранне.

Што ж прымусіла іх у пошуках абароны звяртацца да журналістаў незалежнага выдання?

Аўтары ліста пішуць пра сур'ёзны інцыдэнт. 6 чэрвеня шэсць чалавек з камеры №2 штрафнога ізалятара а пятай гадзіне раніцы, калі прагучала каманда "Пад'ём!", убачылі, што іх вопратка стала мокрая ад вады. Зэкі папрасілі, каб іх перавялі ў іншыя камеры на час рамонту, але ім было адмоўлена. Хаця рамонтнікаў, каб пачыніць трубы, адміністрацыя калоніі ўсё ж прыслала. Але што тут трубы, калі трэба рамантаваць дах, з якога пасля кожнага дажджу ліецца?

Карацей, асуджаныя былі на калідоры, пакуль рамонтнікі рабілі сваю справу, а прадстаўнікі адміністрацыі абыходзілі камеры. Калі надышоў час вяртацца у камеру, да адбываючых пакаранне падышлі кантралёры. Далей цытата з ліста: "*Яны пацікавіліся: "Хто адмаўляецца заходзіць у камеру?" У адказ: "Усе! Камера сырая, і там немагчыма знаходзіцца". Тады нас павялі ў прагулачны дворык. Недзе ў 13.00 падышоў ДПНК (дзяжурны памочнік начальніка калоніі. —* ***Аўт.****), ткнуў у двух асуджаных пальцам і кажа: "На выхад!" Тыя пайшлі і ў калідоры ўбачылі па баках кантралёраў, якія загадалі ім спыніцца. Потым паклікалі яшчэ аднаго асуджанага. Гэтых завялі ў камеру №3, а яшчэ траіх нагамі заштурхнулі ўсё ў тую ж камеру №2. Там іх пачалі збіваць дубінкамі, нагамі і рукамі. Пачуўшы гэта, іншыя асуджаныя пачалі грукаць у дзверы і крычаць, каб не збівалі людзей. Але тыя працягвалі біць. Потым адзін з ахоўнікаў пачаў бегаць па калідоры і крычаць: "Каго яшчэ?! Я раскручу вас па 411-й!" (Маецца на ўвазе крымінальны артыкул "Злоснае непадпарадкаванне супрацоўніку адміністрацыі папраўчай установы, які караецца дадатковым пазбаўленнем волі. —* ***Аўт.****). Калі кантралёры сышлі ў пакой дляператрусу, з розных камер сталі запытвацца, ці моцна збілі гэтых траіх. Калі ж даведаліся, што пабоі былі цяжкія, то пачалі абурацца. Усе былі на нервах: "Калі адміністрацыя хоча нашай крыві, то мы самі яе дамо". Разбілі лямпачку і парэзалі сабе рукі, а адзін асуджаны з камеры №6 нават парэзаў сабе жывот".*

Інфармацыю пра спробу турэмнага бунту ні прэс-служба МУС, ні праваабаронцы, ні Дэпартамент выканання пакаранняў не распаўсюдзілі. Але з ліста вынікае, што потым дзяжурны ўрач дваіх накіраваў у медчасць, а астатнім аказаў дапамогу і пакінуў у камерах. А калі высветлілася, што чалавека, які парэзаў сабе жывот і рукі, адвезлі ў шпіталь толькі на наступны дзень, то людзі з іншых камер абвясцілі галадоўку. Яны заявілі, што не будуць прымаць ежу, пакуль да іх не прыйдзе прадстаўнік пракуратуры.

"*Мы спадзяёмся з дапамогай гэтага ліста дабіцца, каб нешта змянілася. Мы лічым, што мы таксама людзі і тое, пра што мы напісалі, не можа быць падставай, каб нас збівалі і калечылі. Ніхто з нас не застрахаваны ад таго, каб вярнуцца дадому інвалідам",* — напісалі ў "Народную Волю" з калоніі ў Івацэвічах.

Ці доўжыцца галадоўка зараз, ці яна спынена, ці яе ўвогуле не было — з ліста не зразумела.

Першы намеснік Дэпартамента выканання пакаранняў **Сяргей ПРАЦЭНКА** паведаміў "Народнай Волі", што ведае пра інцыдэнт. Але ў яго трактоўцы ўсе выглядае па-іншаму.

*— У ШЫЗА знаходзяцца парушальнікі рэжыму. Вы думаеце, што там сядзяць невінаватыя?.. Калі б дзеянні супрацоўнікаў калоніі былі незаконнымі, то іх бы ўжо даўно пакаралі. А наконт таго, што нібыта нехта там парэзаў жывот і яго адвезлі ў шпіталь, — гэта няпраўда.*

*Яны адмовіліся выконваць законныя патрабаванні адміністрацыі. Яны не могуць выбіраць сабе камеры, якія ім падабаюцца ці не падабаюцца. Адміністрацыя іх рассаджвае па камерах, а не яны самі гэта робяць. Таму ў гэтай сітуацыі дзеянні адміністрацыі былі своечасовымі і адэкватнымі дзеянням асуджаных. Закон дазваляе ўжываць фізічную сілу і спецсродкі. Для нас гэтая сітуацыя надзвычайная, і адміністрацыі пра такія выпадкі заўсёды нам дакладваюць. Таму пра тое, што адбылося, мы ведаем. Асуджаны Хамідулін, які ўтрымліваўся ў ПКТ на знак пратэсту супраць таго, што ўжылі спецсродкі (не да яго, а да іншага асуджанага), кавалкам абліцовачнай пліткі нанёс сабе раны правага передплечча. Ні ў які шпіталь яго не вазілі. Яму дапамогу аказалі на месцы. Вы ведаеце, што такое членашкодніцтва? Гэта дэманстратыўныя паводзіны чалавека дзеля таго, каб звярнуць на сябе ўвагу. За гэта, між іншым, прадугледжана пакаранне. Яны пракурора чакаюць? А вы ўявіце сабе самі, калі на кожнае незаконнае патрабаванне будзе хадзіць пракурор, то колькі яму давядзецца хадзіць?*

І ўсе ж такі падаецца, што Дэпартамент выканання пакаранняў вельмі лёгка "разабраўся" ў сітуацыі. У цывілізаваных краінах у турму адразу пусцілі б праваабаронцаў, каб яны паразмаўлялі і з асуджанымі, і з адміністрацыяй, выслухалі ўсе бакі канфлікту і зрабілі выснову. А што ў нас?

"Народная Воля" гатова накіраваць у Івацэвічы журналіста, каб ён аб'ектыўна разабраўся ў сітуацыі. Чакаем згоду на такое незалежнае разбіральніцтва ад прадстаўнікоў Міністэрства ўнутраных спраў.

**Любоў ЛУНЁВА.**

Народная Воля
http://www.nv-online.info
22 ЧЭРВЕНЯ 2012 г.

РАЗВІТАННЕ

# Апошні з магікан

*Ён быў апошнім «Настаўнікам года» краіны пад назвай СССР. Валерый Аляксандравіч Гербутаў, настаўнік-метадыст мінскай школы №49. Сам Міхаіл Гарбачоў уручаў пераможцу Усесаюзнага конкурсу «Настаўнік года-91» ганаровы прыз і сімвал конкурсу— «Хрустальнага Пелікана»...*

Калі ў ягоным любімым 9 "А" ўведалі, што іх Валерый Аляксандравіч прызнаны лепшым настаўнікам Савецкага Саюза, то і не здзівіліся, а толькі з юнацкім максімалізмам засведчылі: "Усё правільна! Мы ў гэтым былі ўпэнены! Наш Валерый Аляксандравіч, канечне, самы лепшы. Ён — аазіс сярод пустыні..."

Спецыяліст па прызванні, настаўнік ад Бога — так ахарактарызавалі тады фізіка з 49-й школы і ягоныя калегі. "Настаўнік з вялікай літары, непаўторная асоба, удзельнік "трыбуны" настаўнікаў-метадыстаў, стваральнік аўтарскай праграмы па фізіцы і аўтар серыі распрацовак па інтэнсіфікацыі працэсу навучання — такую ацэнку дала Гербутаву і дырэктар Мінскага гарадскога інстытута ўдасканалення настаўнікаў і павышэння кваліфікацыі работнікаў народнай адукацыі Н.Крылова...

Усесаюзная вядомасць, нават слава, прызнанне калег, удзячнасць вучняў — усё гэта было... Але самога Гербутава тая вядомасць мала хвалявала і ўзрушала: ён, як і раней, апантана рабіў сваю справу — вучыў мысліць нават самых раўнадушных, звязваючы фізіку і яе законы з акаляючым вучняў паўсядзённым жыццём. І гэта яму ўдавалася...

А потым прачнулася задраманая хвароба: 11 аперацый, нерухомасць, барацьба за жыццё. У рэшце рэшт Валерый Аляксандравіч падзяліў трагічны лёс легендарнага Пелікана... Нагадаю, што яшчэ ў пушкінскія часы на эмблеме Царскасельскага ліцэя была выява пелікана. Чаму менавіта пелікана, а, скажам, не савы — яна ж сімвал мудрасці? Адказ наступны: настаўніку мудрасць, безумоўна, патрэбна, але яшчэ болей патрэбна самаахвярнасць, вера ў сваіх дзяцей, імкненне пакласці на алтар іх выхавання нават само сваё жыццё. Старая як свет легенда даносіць: калі змяя ўджальвае пеліканавых птушанят, той раздзірае свае грудзі і сваёю крывёю акрапляе параненых птушанят. Яны выжываюць, але пры тым гіне сам птах. Уладальнік апошняга "Хрустальнага Пелікана" паўтарыў лёс таго самага (па легендзе) птаха, які ёсць сімвал самаахвярнасці — усё ў імя сваіх дзяцей, у імя спасціжэння ісціны і навук. 6 чэрвеня 2012 года сэрца Валерыя Аляксандравіча Гербутава перастала біцца...

Самае прыкрае ў гэтай гісторыі, што ніхто з тых чыноўнікаў ад адукацыі, якія на пачатку дзевяностых і пазней расчулена-ўзнёсла спявалі дыфірамбы Настаўніку-наватару, Настаўніку-мысляру і проста Чалавеку з вялікай літары, не прыйшоў з ім развітацца... Чаму? Не ведалі ці зрабілі выгляд?... А можа, нешта іншае замінала? Можа, новы час і новыя парадкі такія? Сталі больш чэрствымі, больш эгаістычнымі, больш рацыянальнымі, чалавекамі-футараламі, супраць чаго і вёў барацьбу сваімі выхаваўчымі сродкамі Валерый Аляксандравіч?..

Пытанні, на якія няма ўцямнага адказу. Можна толькі здагадвацца, але для гэтага варта хоць бы пунктырна акрэсліць жыццёвае і педагагічнае крэда самога Валерыя Гербутава. Ён адным з першых парушыў сістэму самога Яна Амоса Каменскага — вялікага педагога і філосафа. Падумаць толькі: сістэма вялікага Дыдакта выдатна функцыянавала амаль трыста гадоў, а тут раптам нейкі Гербутаў і кампанія... Але ж усяму ёсць пачатак і ёсць канец, а яшчэ дакладней (згодна з законамі фізікі) — непазбежная трансфармацыя ўсяго, уключаючы педагогіку. У сістэме Каменскага ўсё было раскладзена па палічках, кожнаму вінціку (настаўніку, вучню, бацьку і маці) — сваё месца, поўны парадак. Каб "вінцікі" функцыянавалі, дастаткова памяці і паслушэнства. Паслушэнства, афармленага ў выглядзе патрабаванняў да ведаў, уменняў і навыкаў... І не давядзі Божа адысці хоць на ёту ў любым кірунку — крамола, ерась; усе адхіленні — ліквідаваць, усіх нязгодных — прагнаць, усе канфлікты знішчыць да асновы-кораня. Знаёмы спіч, ці не праўда? Проста з нашага жыцця цяперашняга, свежанькі... І з ім маўкліва пагаджаюцца многія "сістэмныя вінцікі". А што ж Валерый Аляксандравіч? Як мысліў ён яшчэ на пачатку дзевяностых і як працаваў з вучнямі, як вучыў-выхоўваў? Зусім не па сістэме...

**З маналога Валерыя Гербутава:**

***"Славутыя школьныя асновы навук у іх цяперашняй інтэрпрэтацыі — гэта кастрыраваныя навуковыя веды, фрагменты, спецыяльна вызначаныя для школьнага навучання. Але па сутнасці сваёй яны нічога не маюць агульнага з рэальнасцю і навукай. Асновы літаратуры і гісторыі зусім не садзейнічаюць выхаванню школьнікаў, хутчэй, рыхтуюць экскурсаводаў па літаратуры і гісторыі, ды і то даволі нізкага ўзроўню. Асновы фізікі, хіміі і біялогіі закліканы развіваць светапогляд, але, па сутнасці, займаюцца паступовым падвядзеннем вучняў да ўспрыняцця вузаўскай праграмы, ды і то сумніўным шляхам. А што ў выніку? У выніку на першых занятках у ВНУ учарашнія школьнікі чуюць: "А цяпер забудзьце тое, чаму вас навучалі ў школе..." Як вам?"***

Сказана ў дзевяностых, а як быццам учора і пра надзённае... За такое і зараз бы не пагладзілі па галоўцы. А ён жа і не такое мог сказаць. Ну напрыклад:

***"Наша адукацыя ператварылася... у тормаз развіцця асобы, як вынік — рэзка ўпаў узровень агульнай культуры чалавека, а разам з тым і прафесійны ўзровень, талентаў стала знаходзіцца ўсё меней, бо таленавітаму чалавеку цяжэй жывецца ў грамадстве, меркантыльнасць стала нормай..."***



Калі зазірнуць у праграму па фізіцы для сярэдняй школы, то там можна знайсці такі раздзел: "Аўтарская праграма па фізіцы для базавага ўзроўню агульнаадукацыйнай школы". Аўтар праграмы — В.А.Гербутаў, настаўнік-метадыст СШ №49 г. Мінска. Такая спадчына — вялікі падарунак маладым людзям.

Філасофія Валерыя Аляксандравіча — філасофія мудраца. Так, мы ўвесь час падпарадкоўвалі чалавека сістэме, а яна асабліва пільна сачыла за выхаваннем новага пакалення. Таму агульначалавечыя каштоўнасці проста свядома ігнараваліся, а то і забараняліся. Настаўнік працаваў на сярэдняга вучня. Грамадства мела сярэдняга чалавека, шэрага, паслухмянага, вінціка карацей. Таленавітаму не было дарогі, ставілі палкі ў колы. І на тым дзякуй, што ёсць хоць дзяржпраграма "Таленавітыя дзеці"... Але сістэма з нейкай пары зноўку стала зацікаўленай у тым, каб не дзяржава для чалавека, а чалавек для дзяржавы... Патрэбны паслухмяныя выканаўцы, а не свабодныя людзі з разняволенай душой і розумам. Усё вярнулася на кругі свае... Валерый Аляксандравіч, па словах ягонай удавы Віялеты Канстанцінаўны, яшчэ задоўга да свайго скону добра адчуў гэты халодны подых старых часоў, быццам вернуты злым чараўніком з далёкага-далёка...

У школу ён прыйшоў у 1982 годзе, хаця на пачатку аб прафесіі настаўніка і не задумваўся нават. Планы ў таленавітага і перспектыўнага студэнта Маскоўскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Ламаносава, дзе ён спасцігаў таямніцы любімай фізікі, былі зусім іншыя. Лёс рыхтаваў яму бліскучую кар'еру вучонага. Не дзіва, бо сам адораны ад Бога ды яшчэ вучыўся ў Нобелеўскіх лаўрэатаў — Ландау і Басава. Вучыўся апантана. І ўсё б спраўдзілася, калі б... не вялікае каханне, а потым і шлюб з замежнай грамадзянкай з братняй славянскай Балгарыі. Яна краіна, можа, і брацкая Балгарыя, але такі шлюб тады быў сур'ёзным хібам у анкеце. Смешна? Але на кар'еры ставіўся тлусты крыж — вось і ўсё...

**З маналога Валерыя Гербутава:**

***"Можна сказаць, што ў школу я прыйшоў выпадкова. Быў самы цяжкі момант у жыцці. Два гады на мяжы выжывання. Калі нас з жонкай (а яна ў мяне балгарка, філолаг, журналіст і псіхолаг) літаральна выгналі з Брэста. Маўляў, якое мае права балгарка выкладаць рускую мову?! Цкавалі спачатку знізу. А пасля ўзяліся і зверху. Перабраліся ў Мінск. Тут таксама культурна і пачціва ўсюды адказвалі. Стаж перапыніўся. І тады пайшоў я ў 73-ю школу настаўнікам працы. А з 1982 года пачаў працаваць настаўнікам фізікі ў 40-й. Вопыт у мяне быў, але інстытуцкі. Я скончыў фізфак МДУ, аспірантуру, працаваў у брэсцкім інстытуце. І калі ўбачыў у школе, як за мной купкай ідуць дзеці, убачыў іх вочы, а праз іх і дзіцячыя душы, сэрца пратахкала: усё, тут маё месца, без гэтых цікавых вачанят не пражыву. Вось так і цяпер жыву. І не лічу сябе няўдачнікам. І хоць сёння шмат прапаноў на розныя высокія пасады, але я не правёў яшчэ свой лепшы ўрок. А значыць, не магу пакінуць школу..."***

Хвароба перашкодзіла, і ўрок, які ён палічыў бы лепшым, застаўся светлай мрояй. Затое Беларусь атрымала "школу Гербутава" — шмат урокаў, і на доўгі час. Не толькі і не столькі для вучняў, колькі для маладога настаўніцтва, якое — рана ці позна — засвоіць не адно сістэму Яна Каменскага, але Школу (па-сутнасці, сістэму навучання і светапоглядную сістэму) Валерыя Гербутава. І будзе ёю кіравацца. Так будзе!

**З запісной кніжкі Валерыя Гербутава:**

***"Я думаю, што настаўніцтва — ёсць біялагічны і сацыяльны подзвіг. Яно павінна ўсё-такі выжыць. Большасць настаўнікаў могуць працаваць, як коні, бегаць у пошуках хлеба надзённага, як стаеры, хутка вучыцца працаваць рукамі, як прыматы, рэзаць і сшываць, як хірургі, развярэдзіць душу сваімі праблемамі, як акцёры, настойліва і ўпарта прабіваць глухую сцяну закасцянелай дзяржадукацыі.***

***Ну, а калі ў краіне з'явіцца попыт на інтэлект, то цяжка ўявіць, як рынак выжыве ва ўмовах жорсткага настаўніцкага прэсінгу..."***



Валерый Аляксандравіч ніколі не хаваў сваіх думак ад калег, начальнікаў і ўсіх астатніх. Таму і не вельмі ўпісваўся ў айчынную педагогіку. Прытармозвалі, бывала, цкавалі, насцярожваліся пры кожным ягоным адкрытым уроку: шэрасць заўсёдна ж баялася навацый. На Рэспубліканскім конкурсе "Настаўнік года" прысудзілі толькі трэцяе месца, думалі, відаць, што не адважыцца паехаць у Маскву на ўсесаюзны конкурс... А ён паехаў — прайшоў агонь, ваду і медныя трубы і быў прызнаны лепшым сярод лепшых. Гэта потым з усіх канцоў Саюза, уключаючы мясцовых, пачалі запрашаць да сябе: каб паказаў, расказаў, падзяліўся вопытам. Толькі потым пра яго пачалі пісаць у перыёдыцы, у педвыданнях і паказваць па тэлебачанні. Як жа — з самім Гарбачовым цэлых 70 мінут вялі гаворку. Валерыя Аляксандравіча такая ўвага змушала да аднаго — да працы, якая акрыляла і падахвочвала. Сам конкурс, па ягоных жа словах, — гэта быццам бы кульмінацыйны пункт кансалідацыі педагагічных сіл, калі кожны, хто адважыўся на такое нялёгкае выпрабаванне, ва ўзнагароду атрымлівае шчасце зносін. І, нарэшце, гэта горан, у якім настаўнік гартуецца, вучыцца быць і робіцца барацьбітом, калі ўжо не страшна выйсці ні на сцэну, ні, калі трэба, на плошчу!..

Ён і ў гэтым таксама быў жывым прыкладам і застанецца такім назаўсёды... "Хрустальны Пелікан" патрапіў дакладна ў тыя рукі і таму Чалавеку, які варты легендарнага царскасельскага Пелікана. Вось толькі рана ён пакінуў гэты свет. Відаць, па той бок быццяталент і сумленне ў вялікім дэфіцыце?..

**Георгій ЧЫГІР.**

БЕЛАРУСЬ—ЕЎРОПА

## Еўрасаюз можа пашырыць санкцыі супраць афіцыйнага Мінска

*З такой заявай выступіў прадстаўнік замежна-палітычнай службы Еўрасаюза* ***Гунар ВІГАНД.***

Па яго словах, якія перадае РІА "Новости", такі крок можа стаць адказам на працяг рэпрэсій супраць палітычных апанентаў улады ў Беларусі.

Дыпламат лічыць вызваленне экс-кандыдата ў прэзідэнты Андрэя Саннікава і яго паплечніка Зміцера Бандарэнкі недастатковым для пачатку паляпшэння адносін паміж Еўрасаюзам і Беларуссю. Віганд не выключыў, што ЕС можа пашырыць лік асоб, якім забаронены ўезд у Еўрасаюз.

Нагадаем, што цяпер у "чорны спіс" беларускіх чыноўнікаў і прадпрымальнікаў уваходзяць 243 чалавекі. Але, паводле інфармацыі брусельскага часопіса EUobserver, ЕС можа ўключыць у гэты спіс прадпрымальніка **Аляксандра МАШЭНСКАГА,** якога падазраюць у аказанні фінансавай падтрымкі беларускаму рэжыму і атрыманні пераваг ад гэтага.

Аляксандр Машэнскі — генеральны дырэктар СП "Санта-Імпэкс".

Ганаровы консул Ісландыі ў Рэспубліцы Беларусь, у 2007 годзе ўзнагароджаны медалём "За працоўныя заслугі". Ураджэнец Брэста. Выпускнік механіка-матэматычнага факультэта БДУ (1992 год). У неафіцыйных рэйтынгах (а афіцыйных не існуе) уваходзіць у дзясятку найбагацейшых людзей Беларусі. Яму належаць знакамітыя "Савушкін-прадукт" і "Санта-Бремор".

**Алег СНОЎ.**

ЧУЛІ?

## Мясніковіч папрасіў настаўнікаў не турбавацца

Беларускім настаўнікам адпускныя выплацяць своечасова і ў поўным аб'ёме. Аб гэтым заявіў журналістам кіраўнік беларускага ўрада **Міхаіл МЯСНІКОВІЧ.**

Паводле яго слоў, праблемы з грашыма ўжо вырашаны. *"Урад дапамог аблвыканкамам, і літаральна ўчора-сёння пераразмеркаваны дадатковыя сродкі — гэта каля 400 мільярдаў рублёў, каб у поўным аб'ёме забяспечыць планавыя выплаты нашым настаўнікам",* — сказаў Мясніковіч.

ПУЛЬС

## За свабоду думкі

На радзіме Васіля Быкава адбылося традыцыйнае ўручэнне прэміі "За свабоду думкі", якую ўручае Рух "За свабоду". Лаўрэатамі сёлета сталі краязнаўца **Алесь БЕЛАКОЗ** і рок-музыка **Лявон ВОЛЬСКІ.**

Палітык Аляксандр Мілінкевіч назваў Белакоза "хросным бацькам Адраджэння на Гродзеншчыне". Сам жа лаўрэат сціпла назваў сябе "звычайным настаўнікам, які зрабіў справу, якую быў абавязаны рабіць".

## У аблозе

Ужо сёмы месяц падатковая інспекцыя вядзе праверку даходаў старшыні Аб'яднанай грамадзянскай партыі **Анатоля ЛЯБЕДЗЬКІ** і яго сям'і.

*"Я, жонка і сын на траіх маем тры адміністрацыйныя справы,* — гаворыць Анатоль Лябедзька. — *А цяпер паведамленне аб прадастаўленні дэкларацыі аб даходах за восем гадоў атрымала сястра маёй жонкі і яе муж. Гэта ўжо нагадвае мне тактыку выпаленай зямлі. Сілавікі такім чынам хочуць стварыць дыскамфорт у адносінах нашай сям'і і сваякоў. Бо відавочна, што проста так звычайных людзей, досыць далёкіх ад палітыкі, правяраць, ды яшчэ за восем гадоў, ніхто не стане. Гэта адкрыты палітычны заказ".*

## У рэстаран на ўсё гатовае

Супрацоўнікам кавярняў і рэстаранаў катэгарычна забаранілі рыхтаваць стравы з прадуктаў, атрыманых ад кліентаў. Такія патрабаванні ўтрымліваюцца ў пастанове галоўнага санітарнага ўрача Беларусі "Аб узмацненні мер па прафілактыцы вострых кішэчных інфекцый".

Цяпер пры правядзенні банкетаў і мерапрыемстваў у аб'ектах грамадскага харчавання забараняецца выкарыстоўваць прадукты, прыгатаваныя ў хатніх умовах, і рыхтаваць стравы з прынесеных прадуктаў. Парушальнікам пагражае штраф: да 200 базавых велічынь юрыдычным асобам і да 30 базавых — фізічным.

ДЗІКУНСТВА!

## Дапляваўся на 6 гадоў турмы?

*19-гадовы жыхар Стоўбцаў, навучэнец Мінскага дзяржаўнага каледжа электронікі, можа пазбавіцца волі на тэрмін да 6 гадоў.*

Як паведамілі ва ўпраўленні ўнутраных спраў на транспарце МУС Беларусі, малады чалавек на пасадачнай платформе прыпыначнага пункта "Інстытут культуры" ў Мінску, знаходзячыся ў стане алкагольнага ап'янення, беспадстаўна з хуліганскіх намераў збіў 61-гадовую пенсіянерку з Нясвіжа і 36-гадовую жыхарку гарадскога пасёлка Гарадзея, прычыніўшы абедзвюм лёгкія цялесныя пашкоджанні, якія не пацягнулі за сабой кароткачасовага расстройства здароўя.

Устаноўлена, што пацярпелыя зрабілі маладому чалавеку заўвагу ў сувязі з тым, што ён некультурна сябе паводзіў, дэманстратыўна заплёўваючы платформу. Пачуўшы ў свой адрас папрокі, малады чалавек пачаў збіваць жанчын. Хуліганскую выхадку навучэнца спыніў патрульны нарад, які аператыўна прыбыў на месца здарэння пасля паступлення сігналу пра ўчыненае супрацьпраўнае дзеянне.

Цяпер юнак знаходзіцца ў ізалятары часовага ўтрымання. У адносінах да яго распачата справа за злоснае хуліганства, яму пагражае пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі тэрмінам да шасці гадоў.

СКАНДАЛ

## Аляксандр ГАНЧАРОЎ: «Такое вось здарылася гора...»

*Як паведаміў "Народнай Волі" галоўны трэнер па цяжкай атлетыцы Аляксандр Ганчароў, бронзавы прызёр чэмпіянату Еўропы Міхаіл Аўдзееў дыскваліфікаваны на чатыры гады за ўжыванне допінгу.*

Міхаіл Аўдзееў трэніруецца ў Міхаіла Саладара, які з'яўляецца асабістым трэнерам алімпійскага чэмпіёна Андрэя Арамнава. Вясной гэтага года Аўдзееў заваяваў на чэмпіянаце Еўропы "бронзу" (катэгорыя да 105 кг). Але, як аказалася, допінг-тэст даў станоўчы вынік — у пробе спартсмена былі выяўлены сляды балдэнона.

Па рашэнні Міжнароднай федэрацыі цяжкай атлетыкі, беларускі штангіст дыскваліфікаваны на чатыры гады і пазбаўлены бронзавай узнагароды чэмпіянату.

— Удзел Міхаіла Аўдзеева ў Алімпіядзе не планаваўся, так што для зборнай напярэдадні Гульняў страты не адбылося, — распавёў **Аляксандр ГАНЧАРОЎ**. — Але шкада, што губляем спартсмена. Добры хлопец, але здарылася такое вось гора. Яму ўжо 30 гадоў, так што пасля чатырохгадовай дыскваліфікацыі Міхаіл наўрад ці вернецца ў вялікі спорт.

**— Нейкае ўнутранае расследаванне вы ўжо праводзілі ў камандзе?**

— Спартсмен адмаўляе, што прымаў прэпарат, але ж і проба "А", і проба "В" далі станоўчы вынік. Балдэнонам, дарэчы, карыстаюцца ветэрынарныя ўрачы, але кажуць, што выкарыстоўваюць яго і для нарошчвання мышачнай масы. Перад спаборніцтвамі мы праводзілі выязны кантроль, усё было нармальна. А тут бачыце, як атрымалася...

**Алесь СІВЫ.**

ЭКСПЕРТЫЗА

# Апалітычная амністыя?

Праваабаронцы жорстка раскрытыкавалі накіраваны ў парламент праект закона аб амністыі за яго палітызаванасць. Яны сцвярджаюць, што словы Аляксандра Лукашэнкі, сказаныя падчас спецыяльнай нарады, што "ніякай палітыкі тут быць не павінна" і "ўсё павінна быць сумленна", выглядаюць як здзек.

12 чэрвеня падчас нарады па пытаннях амністыі, прымеркаванай да свята 3 ліпеня, Аляксандр Лукашэнка сказаў: *"Мы праводзім амністыю ў нашай дзяржаве і для нашага грамадства. Гэта і сігнал грамадству, і заахвочванне зняволеных. Ніякай палітыкі тут быць не павінна".* Аднак, прааналізаваўшы пералік артыкулаў, паводле якіх асобы не могуць трапіць пад амністыю, праваабаронцы загаварылі пра палітычную афарбоўку, якая стала "спецыфікай" закона аб амністыі-2012.

*"Калі правесці параўнанне з законамі аб амністыі папярэдніх гадоў, то ў пералік артыкулаў, на якія не распаўсюджваецца амністыя, ніколі не ўключаліся, напрыклад, артыкулы 342 і 367... Я нагадаю, што па падзеях 19 снежня дзесяць чалавек былі асуджаны менавіта па 342-м артыкуле. Сярод іх — Зміцер Бандарэнка, які атрымаў два гады пазбаўлення волі і праз памілаванне быў вызвалены не так даўно. Сярод іх — Павел Севярынец, які зараз у Брэсцкай вобласці адбывае пакаранне ў выглядзе абмежавання волі. І яшчэ восем чалавек па гэтым артыкуле адбываюць розныя тэрміны — умоўныя альбо з адтэрміноўкай прысуду. Паводле праекта новага закона, ніхто з іх пад амністыю не трапіць. Хоць раней у нас яшчэ былі спадзяванні, што Павел Севярынец выйдзе на волю. Што тычыцца тых, на каго судом накладзена абмежаванне волі ў выглядзе ўмоўных тэрмінаў ці з адтэрміноўкай (як Ірына Халіп, Уладзімір Някляеў і іншыя) — гэтыя абмежаванні таксама не будуць адменены. Мы ўжо бачым, што нашы спадзяванні на амністыю не спраўдзіліся",* — заявіў вядомы праваабаронца **Валянцін СТЭФАНОВІЧ.**

Пацвярджэннем "персанальнага падыходу" ўлад да правядзення амністыі ён называе і фігураванне ў спісе тых, на каго амністыя не распаўсюджваецца, асуджаных па артыкуле 367: *"Тут сітуацыя таксама зразумелая: па ім быў асуджаны журналіст Андрэй Пачобут, які адбывае пакаранне з адтэрміноўкай. На яго амністыя таксама распаўсюджвацца не будзе".*

Праваабаронца звяртае ўвагу, што ў асноўным у пералік артыкулаў, на асуджаных па якіх не распаўсюджваецца амністыя, уваходзяць цяжкія і асабліва цяжкія злачынствы — "Кваліфікаванае забойства", "Згвалтаванне", "Гвалтоўныя дзеянні сексуальнага характару", "Бандытызм", "Тэрарызм" і іншыя. Але ў адзін шэраг з імі ставяцца артыкул 342 "Арганізацыя і падрыхтоўка групавых дзеянняў, якія парушаюць грамадскі парадак, або актыўны ўдзел у іх" і артыкул 367 "Паклёп на прэзідэнта".

*"Я паўтаруся, што гэтыя артыкулы ніколі раней у пералік артыкулаў, на якія не распаўсюджваецца амністыя, не ўключаліся. А ў гэтым годзе мы бачым такую вось "спецыфіку",* — дадае Стэфановіч. На яго думку, асноўная мэта сёлетняга закона аб амністыі — недапушчэнне вызвалення палітычных вязняў.

ПРЭЦЭДЭНТ

# «Таемны вірус» Аляксея Бегуна і прынцыповасць Гары Паганяйлы

Калі праваабаронцы не могуць абараніць саміх сябе, то каго тады яны могуць абараніць?

Гары Паганяйлу прынцыповасці не займаць, і ён дайшоў да суда, дабіваючыся, каб яго выключылі са спісу невыязных з краіны. І справа гэта прэцэдэнтная. Бо таямнічым чынам у аналагічны спіс трапілі кіраўнікі шэрагу апазіцыйных партый, грамадскія актывісты, праваабаронцы і нават журналісты. Па чыім загадзе, з-за каго? Канцоў не знайсці.

На гэтым тыдні ў судзе Маскоўскага раёна нарэшце адбыўся разгляд скаргі кіраўніка юрыдычнай службы праваабарончага ГА "Беларускі Хельсінкскі камітэт" Гары Паганяйлы на дзеянні міністэрстваў унутраных спраў і юстыцыі. Скарга датычыцца **незаконнага** ўключэння спадара Паганяйлы ў спісы невыязных.

У выступленні ў судзе Гары Паганяйла адзначыў, што **бачыць у дзеяннях чыноўнікаў Мінюста і Міністэрства ўнутраных спраў склад крымінальнага злачынства.** *"Незаконнае ўключэнне ў спіс невыязных за межы Беларусі з'яўляецца складам крымінальнага дзеяння, бо чыноўнікі абмяжоўваюць свабоды, якія гарантаваны Канстытуцыяй. Менавіта за тое ж, нагадаю, была асуджана былы следчы пракуратуры Святлана Байкова. За парушэнне канстытуцыйных правоў грамадзян на свабоду. Паводле меркавання суда, яна адвольна кагосьці прыцягвала да крымінальнай адказнасці, пазбаўляла свабоды, калі брала пад варту. Кагосьці, наадварот, вызваляла ад крымінальнай адказнасці незаконна, як вырашыў суд. А гэта і ёсць дзеянні, якія караюцца крымінальна"*, — заявіў Паганяйла.

Гары Паганяйла адзначыў у судзе, што не мае ніякіх абавязацельстваў перад гаспадарчымі органамі, не мае запазычанасцяў, у яго няма ніякіх абавязацельстваў па судовых рашэннях. Але ў спісе невыязных ён нібыта аказаўся з той прычыны, што з'яўляецца адказчыкам па таямнічай справе аб банкруцтве. Хоць на самай справе ніякай таямнічай справы аб банкруцтве няма і не можа быць.

Пасля Гары Паганяйлы на судзе выступіла прадстаўнік Міністэрства юстыцыі. Яна пацвердзіла, што ні адным судом рашэнняў у дачыненні да Г.П.Паганяйлы не выносілася, а сам Мінюст ніякіх дзеянняў па ўключэнні яго ў спісы невыязных не прымаў.

Далей па ланцужку павінны былі адказваць прадстаўнікі Міністэрства ўнутраных спраў, бо менавіта гэтае ведамства вядзе так званы "банк інфармацыі аб невыязных". Аднак ні да, ні пасля абеду яны ў суд не з'явіліся. Суддзя Вольга Глушакова прызначыла наступнае пасяджэнне на сёння, 22 чэрвеня.

Справа Паганяйлы цікавая яшчэ вось чым.

31 мая Міністэрства ўнутраных спраў у сваім лісце да праваабаронцы, які дабіваецца аднаўлення сваіх правоў, афіцыйна пацвердзіла, што ведае: Паганяйлу ніякія суды не расшукваюць, прэтэнзій да яго не маюць, іншымі словамі — падстаў забараняць яму выезд з краіны няма. У лісце, які атрымаў праваабаронца ад начальніка Дэпартамента па грамадзянстве і міграцыі МУС **Аляксея БЕГУНА,** адзначалася: "На наш запыт у Міністэрства юстыцыі аб прычынах уключэння звестак аб вас у банк даных паступіў адказ, што судамі Рэспублікі Беларусь рашэнняў аб часовым абмежаванні Вашага права на выезд не прымалася". І тым не менш са спісаў Паганяйлу не выключылі.

*"У цяперашні час у Міністэрстве ўнутраных спраў праводзяцца работы па праверцы сапраўднасці ўсіх звестак, якія паступілі ў банк даных з Міністэрства юстыцыі ў названы перыяд часу. Па завяршэнні названай работы будуць прыняты меры па выключэнні памылковых звестак з банка даных..."*.

Звяртаем увагу: 31 мая МУС ужо ведаў, што ні адзін суд не мае прэтэнзій да Паганяйлы. Але і 21 чэрвеня Гары Паганяйла заставаўся ў спісах невыязных.

Больш за тры месяцы спатрэбілася Дэпартаменту па грамадзянстве і міграцыі МУС, каб прызнаць памылку з унясеннем у спіс невыязных праваабаронцы Валянціна Стэфановіча, якога нібыта расшукваў ваенны камісарыят для прызыву ў армію.

З ліста таго ж Аляксея Бегуна, які 13 чэрвеня атрымаў Стэфановіч, вынікае, што ў базе даных адбыўся тэхнічны збой: *"На наш запыт у Міністэрства абароны аб прычынах уключэння звестак аб Вас у банк даных паступіў адказ, што ваеннымі камісарыятамі Рэспублікі Беларусь рашэнняў аб часовым абмежаванні Вашага права на выезд з Рэспублікі Беларусь не прымалася. Разам з тым, зыходзячы з шэрагу зваротаў грамадзян, варта адзначыць, што ў перыяд з 24.02.2012 па 10.03. 2012 г. меліся тэхнічныя збоі ў перадачы інфармацыі ў банк даных, магчымым вынікам якіх з'явілася памылковае ўключэнне звестак аб Вас у банк даных".*

Трэба адзначыць, што гэтыя "тэхнічныя збоі" насілі вельмі спецыфічны характар, паколькі "таемны вірус" зачапіў толькі вядомых грамадскіх дзеячаў, праваабаронцаў ды журналістаў. Але з-за якога збою яны да сёння не выключаны са спісаў, у якіх аказаліся нібыта не па чыімсьці загадзе, а памылкова? Які "збой" не дазволіў Аляксею Бегуну ці яго падначаленым не з'явіцца ў суд, калі ўсё ўсім у гэтай справе ўжо зразумела?.. Колькі трэба часу, каб наступствы "збою" перамагчы?.. Год, пяць, дваццаць?

**Ігар МАРОЗАЎ.**

СІТУАЦЫЯ

## Адмовіўся прыняць прысягу

Маладзёжны актывіст **Міхаіл Мускі** адмовіўся прыняць прысягу. Ён сцвярджае, што па сваіх перакананнях не можа браць у рукі зброю, і патрабуе прадастаўлення магчымасці прайсці альтэрнатыўную службу.

Тым не менш яшчэ 15 мая хлопца прымусова прывезлі ў вайсковую часць пад Лепелем. Бацькі і сябры Міхаіла больш за суткі не мелі ніякай інфармацыі наконт яго месцазнаходжання. І калі б не мабільнік нейкага прызыўніка, то невядома, колькі давялося б шукаць Міхася. Тым больш што хваляваццa было з чаго. Пасля "Чарнобыльскага шляху" Міхаіла пасадзілі на 15 сутак, абвінаваціўшы ў дробным хуліганстве, потым, як і некалькім яго паплечнікам, дабавілі яшчэ 5 сутак. У выніку, калі ўсе чакалі хлопца каля турэмных варот, яго пад канвоем везлі служыць у войска.

Міхаіл падаў іск на вайскоўцаў, але Нясвіжскі суд яго не задаволіў. Зараз Мускі заяўляе, што будзе дабівацца перагляду справы ў вышэйшых інстанцыях, і прыняць прысягу разам з іншымі салдатамі ў мінулыя выхадныя адмовіўся.

**Любоў ЛУНЁВА.**

КАМЕНТАРЫЙ

## Якімі могуць быць наступствы такога ўчынку?

У юрыдычным упраўленні Міністэрства абароны "Народнай Волі" патлумачылі, што, згодна з заканадаўствам, па гэтым факце павінна быць праведзена праверка. Ваенны юрыст **Аляксандр ШЫКАЛОВІЧ** запэўніў: *"Вайсковы статут не прадугледжвае такой нормы, як адмова ад прысягі. Казаць пра нейкія высновы можна будзе толькі пасля таго, як будзе праведзена праверка і па яе выніках будуць зроблены нейкія высновы".*

С МОЕЙ КОЛОКОЛЬНИ



Елена МОЛОЧКО

## Кому свекровь — свекровушка. А кому и свекровища

Моя приятельница всегда говорила: *"Я — мама мальчика..."* Это была жесткая рамка, из которой она, как лошадь из оглобли — ни вправо, ни влево. Только вперед, и только "рогом" строгой критики на девушек, которые появлялись рядом с ее великовозрастным чадом. Потому что с тех пор, как Олежик стал потенциальным женихом, моя подруга вдруг словно перестала быть женщиной — в психологическом смысле, конечно. В своих младших соплеменницах она видела только бездну пороков. И — будто отреклась от своего женского естества.

Сын жил отдельно, но это мало что меняло — в представлении матери, естественно. Все под контролем! Особенно моя подруга любила заявляться к сыну в дом после дружеских пирушек, которые тот устраивал у себя время от времени. Санстанция отдыхала! Хорошо ли вымыта посуда, как убран дом после гостей, какого качества еда была на столе (да, по остаткам в кастрюльках не стеснялась определять)? Вы думаете, Инна проверяла сына? Ну уж нет — это его подружки, которые в тот момент имели статус "девушек Олега", проходили кастинг на хозяйственность и домовитость! *"Если умеет мыть окна — один балл прибавляется. А если еще и блинчики с куриным фаршем готовит..."* — раскладывала мне по полочкам шансы невест моя Инна.

Я смеялась, потому что Инна хотела видеть рядом с сыном вторую себя. Но такой второй, естественно, быть на земле не могло. И это не ирония: мы же все индивидуальности. Впрочем, слов нет, подсознательно молодые мужчины ищут себе пару по образу, близкому к материнскому. Но именно эта близость, внутренняя подобность высекает потом в отношениях двух женщин — невестки и свекрови — такие искры! Как два однополярных шара, они бьются друг о друга, чтобы через секунду унестись с огромной скоростью по разным углам.

А что сыновья? Некоторые всю жизнь лавируют, как канатоходцы. Через годы, правда, раздражение переливается через край на обеих — и мать, и жену. Другие жестко принимают сторону супруги — тогда между семьями вырастает "Берлинская стена". Но про Олежика никто не сомневался: он-то маменькин сынок, он-то под таким влиянием... Все будет так, как скажет Инна. Бедная невестка... Да и кто ею в таких "фронтовых условиях" отважится стать? А жених завидный, парень отличный. Из хорошей, даже известной минской семьи. Да и сам не промах: классный айтишник, трудолюбивый, талантливый. С "лагодным" характером: работает по 12 часов в сутки и спокойно, почти не комментируя, разрешает матери контролировать свой быт.

И Инна наслаждалась руководством... Желая ему "только счастья" в личной жизни, тем не менее старалась, как мне кажется, эту личную жизнь отодвинуть от парня как можно дальше: они, мол, с сыном неразлучны, а третий (третья), как известно, лишний. *"А Лена?"* — бестактно спрашивали мы подругу. С некоторых пор "третья" тем не менее стала обретать устойчивые физические характеристики. *"Она даже одеться не умеет как следует"*, — смеялась Инна в ответ. Да, стиль не был коньком девушки: джинсы с рубашкой словно приросли к ее почти мальчишескому телу. Банальная одежда, конечно, не портила молодость, которой все к лицу, но, по правде сказать, и не украшала: ее "серенькой" внешности хороший дизайнер мог бы посоветовать что-то более выигрышное. Рядом с ней Инна, несмотря на возраст, выглядела самой элегантностью: она всегда покупала только дизайнерскую одежду. Но Лена проигрывала Инне (вернее, ее "гамбургскому счету") не только в "гламуре": девушка почти не подходила к плите, а тем более к невымытым окнам в квартире своего парня — к хозяйственным делам она, кстати, тоже айтишница, не имела, похоже, рвения. Зато была молчалива, как... Как и Олег.

Но разве это пара сыну? В схеме матери *такой* девушке места не было. И Инна, потеряв бдительность, не волновалась. Но, оказывается, в голове сына тоже была "схема", и однажды он сказал то, что говорят все нормальные парни на земле: *"Через месяц, мама, я женюсь"*.

Вам смешно, а мы думали, что потеряем Инну. Физически. Эти слова проехали по ее здоровью самосвалом. Она закатывала истерики, "умирала" по три раза на дню, потеряла сон, колотясь ночами о диванные подушки. Лене она сказала в глаза все, что думает о "молодой захватчице". С ее родителями не захотела знаться. И на свадьбе выглядела, как на похоронах. Но Лена выдержала такой "прием" у будущей свекрови. И даже на встречу их первого семейного Нового года отпустила Олега к свекрови (впрочем, это было требование Инны, а власть над сыном все-таки была еще сильна) — сама пошла к своим родителям. Признаться, мы тогда поежились: может, это просто "технический" брак? Может, Инна права — Лене нужен лишь штамп в паспорте?

Нет. Брак оказался настоящим. С той поры прошло немало лет. У Олега и Лены родилась дочка. Она выросла, прославилась — стала известной в Беларуси гимнасткой. Но бабушку к внучке не допустили ни разу! Молчаливая Лена оказалась не Берлинской стеной — скалой Аю-Даг. Это была месть. Настоящая месть — холодная, расчетливая. Ничто и никогда уже не смогло поколебать жестокое решение Лены: за унижения она вычеркнула свекровь из жизни своей семьи.

А Олег как подчинялся когда-то матери, так подчиняется теперь жене. Он программист и привык, видно, выбирать самое оптимальное решение в любой проблеме. Инна бесилась, бесилась... А потом сникла. Приняла "условия игры". С сыном видится редко, чаще разговаривает по телефону, по скайпу. Внучку раньше лишь наблюдала издалека — когда та, малышка, выходила гулять во двор. Теперь, слава Богу, чаще — по телевизору на больших соревнованиях. Гордится ею в душе. Надеется, что та скоро сама "все поймет" и позвонит бабушке, и Инна сможет объяснить девушке что-то очень важное. Что? Наверное, и про себя тоже: почему кому-то свекровь — свекровушка, а кому-то — свекровища. Эту тему им не обойти. Тем более что Инна, мне кажется, хорошо усвоила этот урок.

ЧАЛАВЕК І ЯГО ПАЗІЦЫЯ

## Аляксандр Атрошчанкаў пакуль не пойдзе на Плошчу

Аляксандр Атрошчанкаў адбываў чатыры гады зняволення ў "Віцьбе". Каардынатар грамадзянскай кампаніі "Еўрапейская Беларусь" выйшаў на волю 14 верасня мінулага года.

Аляксандр кажа, што ў яго жыцці арышт мала што змяніў. Ён актыўна працягвае займацца сваёй справай, аднавіўся на вучобе ў Еўрапейскім гуманітарным універсітэце.

— Зараз працуем над праектам кампані байкоту падчас бліжэйшых выбараў. Хаця, канешне, галоўнае для мяне — гэта вызваленне іншых палітвязняў. Я з вялікай павагай стаўлюся да анархістаў, хаця і не падзяляю іх поглядаў. І ўпэўнены, што гэтыя людзі апынуліся за кратамі менавіта за свае перакананні. Тут пытанне абсалютна ідэалагічнае. І суд над імі — гэта расправа над іншадумцамі. Вызваленне палітвязняў — справа гонару для ўсіх нас.

**— А як сямейныя справы, як здароўе?**

— Зразумела, што я быў не на курорце і час, які правёў за кратамі, здароўя не дадаў. У мяне там пачаліся праблемы са зрокам і з зубамі. Давялося, як толькі выйшаў на волю, заняцца гэтым. Цяпер, здаецца, усё нармальна. А што да сямейных спраў, то я і да пасадкі ведаў, што ў мяне моцны і надзейны тыл. Цяпер яшчэ больш паважаю сваіх бацькоў і сваю жонку. Але ж я быў не выпадковым чалавекам, які трапіў за краты. Сам раней цікавіўся і шмат чаго ведаў пра той бок за кратамі, але нават не мог сабе ўявіць, наколькі гэта ўсё страшна... У мяне было такое адчуванне, што я на машыне часу апынуўся ў 30-х гадах мінулага стагоддзя. У следчым ізалятары КДБ я пабачыў столькі ўсяго, што нават не магу дагэтуль зразумець, як такое ўвогуле можа адбывацца ў наш час. Потым, калі нейкая інфармацыя стала гучаць, у СІЗА стала крыху лягчэй, але ўсё роўна гэта нейкае сярэднявечнае дзікунства. Ужо потым, у калоніі, было непараўнальна лягчэй. Да таго ж я адчуваў вялікую падтрымку людзей і вельмі ўдзячны за яе.

**— Пасля тых падзей колькасць удзельнікаў пратэстных акцый у краіне скарацілася. Як наконт вашага ўдзелу ў іх?**

— Я вырашыў пакуль устрымацца ад вулічных акцый. Буду выкарыстоўваць нейкія іншыя формы дзейнасці.

**Дар'я СОЛТАН.**

АДУКАЦЫЯ

# Як на ігле...

*Чацвёрты раз ад пачатку навучальнага 2011—2012 года вырасла плата за вучобу ва ўніверсітэтах і інстытутах.*



Справа ў тым, што некаторыя ВНУ паспяшаліся яшчэ ў маі заявіць пра павышэнне коштаў для студэнтаў-платнікаў у сувязі з тым, што з мая ў краіне была павялічана зарплата бюджэтнікам. У некаторых універсітэтах, напрыклад, БДУІР, з'явіўся нават загад рэктара. Аднак Міністэрства адукацыі папрасіла яго адмяніць. І бацькі выдыхнулі з палёгкай: сапраўды, ну колькі можна мяняць цэннікі на адукацыю!

Ад пачатку навучальнага 2011—2012 года плата за вышэйшую адукацыю ў Беларусі павышалася проста шалёнымі тэмпамі. Першы раз кошты пераглядаліся ў бок павелічэння, як толькі студэнты ўвайшлі ва аўдыторыі — у верасні 2011 года. Рост склаў у сярэднім 20%. Другое павышэнне грымнула літаральна праз месяц — у кастрычніку-лістападзе ВНУ павялічылі плату за адукацыйныя паслугі яшчэ на 23—25%. Трэцяе павышэнне адбылося ў лютым 2012 года і вагалася ў межах 29%.

Здавалася б, чацвёртага павышэння студэнтам-платнікам удалося пазбегнуць. Усё ж такі само Міністэрства адукацыі прапанавала рэктарам ВНУ не падымаць кошты. Але ж, відаць, надзейнасць у абяцаннях — не рыса беларускіх улад.

Днямі БЕЛТА са спасылкай на прэс-цэнтр Міністэрства адукацыі паведаміла, што Камісія па пытаннях дзяржаўнага рэгулявання цэнаўтварэння пры Савеце міністраў Беларусі прыняла рашэнне падтрымаць прапанову (!) Міністэрства адукацыі аб павелічэнні з 1 чэрвеня кошту навучання ў дзяржаўных установах вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі ў памеры не больш за 5% у сувязі з павелічэннем з 1 мая гэтага года тарыфнай стаўкі першага разраду на 5%. Гэта значыць не хто іншы, як Міністэрства адукацыі, ініцыявала чарговае павышэнне платы за навучанне!

Такім чынам, студэнтам-платнікам прыйдзецца даплаціць за май і чэрвень яшчэ у сярэднім 300—500 тысяч рублёў. Змяненне кошту не закране толькі студэнтаў і навучэнцаў выпускных курсаў.

— *На мой погляд, такія ўмовы — гэта шулерства,* — выказвае сваё меркаванне маці былой студэнткі БДУ Галіна Сямёнава. — *Бацькі падпісваюць дамову толькі раз — калі дзіця паступае на 1-ы курс. Дамова складзена толькі на карысць ВНУ. Мы як на ігле. ВНУ вырашае павялічыць кошт, і бацькі павінны плаціць. Адмовіцца — значыць, дзіця будзе адлічана. А прывязка аплаты да заробкаў выкладчыкаў мне падаецца не зусім правільнай. Яны ж працуюць у дзяржаўных установах, на іх заробкі грошы ідуць з бюджэту. Як і ўрачам, настаўнікам. Урачам жа не плацяць за кошт пацыентаў, якія лечацца на платнай аснове!*

*На мой погляд, правільна было б прывязаць аплату да базавай велічыні. Напрыклад, год навучання каштуе 10 базавых велічынь. І павышаць аплату адпаведна таму, як мяняецца базавая велічыня.*

Дарэчы, да апошняга павышэння кошты ў самых прэстыжных ВНУ краіны былі наступныя: БДМУ — 10,6—12,4 млн рублёў, БДУ — 8,6—12,0 млн, БДЭУ — 6,8—7,0 млн, БДУІР — 8,7—9,6 млн, Акадэмія кіравання пры прэзідэнце РБ — 9.9 млн, БНТУ — 9,9—10 млн рублёў.

МІЖ ІНШЫМ

## Платнікаў больш, чым бюджэтнікаў

Сёння больш за 60% студэнтаў вымушаны самастойна аплачваць сваё навучанне. Кожны год наборы на платныя аддзяленні павялічваюцца. Напрыклад, у 2007 годзе на першыя курсы дзяржаўных ВНУ на платнай аснове прыйшло навучацца 30 тысяч чалавек, у мінулым — 33 тысячы.

У новым навучальным годзе суадносіны "платнікі — бюджэтнікі" наўрад ці зменяцца. Напрыклад, на юрыдычным факультэце БДУ на платнае аддзяленне плануецца прыняць 215 першакурснікаў, у мінулым годзе першакурснікаў-платнікаў на юрфак БДУ было залічана 190.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

## Дыялог па крэдыце не будзе просты

*Нядаўна Беларусь атрымала трэці транш крыдыту Антыкрызіснага фонду ЕўрАзЭС у памеры 440 млн долараў. У верасні—кастрычніку плануюцца перагаворы па чацвёртым траншы крэдыту.*

*"Мы іх пачнём, думаю, у верасні, у кастрычніку будзем іх весці,* — заявіў журналістам міністр фінансаў Беларусі **Андрэй ХАРКАВЕЦ**. — *І, напэўна, там галоўная пазіцыя, якая зноў-такі ўзнікне, — гэта стан пазіцый па макраэканамічнай палітыцы 2013 года. Таму гэта зноў-такі не будзе вельмі просты дыялог з Антыкрызісным фондам. Мы будзем тлумачыць нашу пазіцыю, слухаць нашых калег і, я думаю, урэшце знойдзем кампраміс".*

Савет Антыкрызіснага фонду ЕўрАзЭС 4 чэрвеня 2011 года адобрыў выдзяленне Беларусі ў 2011—2013 гадах фінансавага крэдыту ў аб'ёме 3 млрд долараў. Еўразійскі банк развіцця ажыццявіў у мінулым годзе пераклад Беларусі двух траншаў крэдыту — на 800 млн долараў і 440 млн долараў. У бягучым годзе Беларусь павінна атрымаць два траншы па 440 млн долараў, адзін з якіх ужо атрыманы.

ЦЭНЫ

## Да расійскага ўзроўню

*Стаўкі акцызаў на тытунёвыя вырабы і алкаголь у Беларусі паступова будуць павышаны да расійскага ўзроўню, паведаміў міністр фінансаў Беларусі **Андрэй ХАРКАВЕЦ.***

*"Мы будзем паступальна павышаць стаўкі акцызаў на тытунёвыя і вінна-гарэлачныя вырабы"*, — сказаў міністр.

*"Больш таго, мы ўзгаднілі гэтую пазіцыю з Расіяй, гэта адна з норм праграмы з Антыкрызісным фондам. Мы ўзгаднілі, што будзем выходзіць як мінімум на ўзровень, максімальна блізкі да расійскіх ставак акцызаў на тытунёвыя і вінна-гарэлачныя вырабы"*, — адзначыў Андрэй Харкавец. *"Гэта не тавар першай неабходнасці, які павінен падпадаць пад клопат дзяржавы"*, — падкрэсліў ён.

ЧУЛІ?

# Грыбнікі напагатове

Мінпрыроды прагназуе грыбны год. Чакаецца вялікі ўраджай лісічак, апенек і чырвонагаловікаў.

*"Прагнозныя паказчыкі сведчаць аб тым, што ў гэтым годзе ў Беларусі ўраджай лісічак, чырвонагаловікаў і восеньскіх апенек будзе высокім. А ўраджай белага грыба і падбярозавіка — сярэднім"*, — паведамілі агенцтву "Інтэрфакс-Захад" у Міністэрстве прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя.

*"У выпадку дажджлівага надвор'я, асабліва ў жніўні, ураджай усіх відаў грыбоў можа аказацца высокім"*, — адзначаюць у ведамстве.

Прагназуючы ўраджай ягад у беларускіх лясах, спецыялісты паведамілі, што *"добры ўраджай ягад чарніц і журавін чакаецца ў Гомельскай вобласці. Сярэдні ўраджай чарніц прагназуецца ў Мінскай, Брэсцкай, Віцебскай і Магілёўскай абласцях, на Гродзеншчыне ўраджай чарніц чакаецца ніжэй сярэдняга".*

А вось ураджай журавін па рэгіёнах рэспублікі будзе невысокім. У Магілёўскай вобласці ён будзе ў гэтым годзе нізкім, у Брэсцкай — сярэднім, у Віцебскай і Гродзенскай абласцях — ніжэй сярэдняга. Найбольшая ўраджайнасць журавін чакаецца ў Гомельскай вобласці.

Па прагнозах спецыялістаў, *"на поўначы, поўдні і захадзе Беларусі чакаецца нізкі ўраджай брусніц, толькі ў цэнтральнай частцы рэспублікі, пры спрыяльных умовах надвор'я, гэты ягаднік сфарміруе добры ўраджай".* Што ж тычыцца дурніц, то ў Віцебскай і Гродзенскай абласцях яе будзе мала, сярэдні ўраджай гэтай ягады прагназуецца на поўдні рэспублікі і добры ўраджай — у цэнтральнай частцы Беларусі.

### У блакнот!

**У гэтым годзе дазволена нарыхтоўваць чарніцы:**

— у Брэсцкай і Гомельскай абласцях — з 25 чэрвеня,

— у Гродзенскай, Мінскай і Магілёўскай — з 30 чэрвеня,

— у Віцебскай — з 2 ліпеня.

**Брусніцы дазволена нарыхтоўваць:**

— у Брэсцкай, Гомельскай, Мінскай і Магілёўскай абласцях — з 16 жніўня,

— у Гродзенскай вобласці — з 18 жніўня,

— у Віцебскай — з 27 жніўня.

**Журавіны можна нарыхтоўваць:**

— у Гомельскай і Брэсцкай абласцях — з 20 жніўня,

— у Гродзенскай — з 25 жніўня,

— у Мінскай — з 27 жніўня,

— у Віцебскай — з 1 верасня.

КРИК ДУШИ

## *У меня есть три желанья... Нету рыбки золотой!*

Первое: хочу, чтобы с 1 июля наш министр здравоохранения ходил в мою районную поликлинику за рецептами и талонами на прием к врачам.

Второе: чтобы наш министр образования написал все тесты ЦТ не ниже семи баллов. Особое внимание — иностранный язык (по выбору министра).

Третье: чтобы министр соцзащиты жила на пенсию учителя, без помощи из деревни в виде сала, картошки, лука и самогона.

Знаю-знаю, вы скажете, что это жестоко, но ведь мы и наши дети так живем.

**Татьяна Константиновна КАРЕЛИНА.**

*Минск.*

ТАК ДУМАЮ!

# Нет им доверия

7 октября 2011 года **Александр ЛУКАШЕНКО** во время пресс-конференции для российских журналистов в присутствии практически всех высших чиновников белорусской власти заявил следующее: *“Если говорить о выборах, то президентские выборы я проводил по понятиям. По понятиям Европейского Союза. Мы полностью ушли от нашего законодательства...”*

Лукашенко напомнил, что накануне выборов Минск посещали европейские чиновники, которые озвучивали ряд требований по проведению выборов. “*Главное было требование — всех зарегистрировать, а у нас надо 100 тысяч подписей собрать для регистрации. Ну ладно, прошел раунд сбора подписей. Один в Витебском районе взял телефонный справочник и всех переписал. Ну как его зарегистрировать? Этого не регистрировали, остальных зарегистрировали — 10 человек. Я им отдал 600 тысяч своих подписей. У меня где-то было 2 миллиона 700 тысяч, я им отдал, чтобы ЦИК их зарегистрировал. Зарегистрировали всех, под железным моим давлением*”, —так сказал тогда Лукашенко.

Прямая трансляция этой пресс-конференции демонстрировалась по всем белорусским телеканалам. И с того дня до сегодняшнего момента ни гражданка **Лидия ЕРМОШИНА,** занимающая пост председателя ЦИК, ни ее верный паж **Николай ЛОЗОВИК,** ни другие члены этой комиссии не опровергли эти утверждения президента Лукашенко. Молчит по поводу “проведения выборов по понятиям” Генеральная прокуратура, молчит свежесозданный Следственный комитет, хранит молчание и КГБ, призванный защищать конституционные основы государства. Полное онемение постигло Конституционный суд, призванный следить за соответствием деятельности всех органов государственной власти белорусской Конституции.

Значит, можно считать, что все сказанное Александром Лукашенко является правдой. Значит, он, а не Ермошина, проводит выборы? И не по белорусскому закону? Хочет — отдает кому-то подписи, хочет — регистрирует тех, кто подписи за свое выдвижение не собрал. Это как называется?

Ведь нам все время рассказывали, что белорусские выборы проводятся по белорусскому законодательству и белорусская ЦИК — самая честная и самая не поддающаяся давлению избирательная комиссия в мире. Но, оказывается, что под “железным давлением” она творит настоящие чудеса.

Кто даст гарантию, что на предстоящих парламентских выборах эта ЦИК не зарегистрирует любого, на кого покажут? Что изменилось в избирательном законодательстве, в правилах проведения выборов, в руководстве Центризбиркома, чтобы на это можно было хотя бы надеяться?

Ничего!

Поэтому я считаю, что сейчас перед избирателями Беларуси снова разворачивается очередная пропагандистская кампания за “парламентские выборы”. И эту кампанию опять будет проводить Л.М.Ермошина “со товарищи”. Будто само собой разумеется, что доверять проведение государственной кампании по избранию высшего законодательного органа можно только людям, которые однажды уже променяли белорусское законодательство на “европейские понятия”.

Кто может гарантировать, что в этой кампании будут участвовать настоящие кандидаты от избирателей, а не группа неизвестных проходимцев, которых снова зарегистрируют “*под железным давлением”?*

Никто!

Кто может поручиться, что это будет честная и открытая избирательная кампания, а не очередная профанация для назначения очередной партии “сидельцев” за будущей тысячедолларовой пенсией?

Никто!

Так о каких выборах мы говорим?

Пусть сначала Генеральная прокуратура, если она действительно надзорный орган государственной власти, проведет проверку деятельности ЦИК во главе с гр. Л.М.Ермошиной по факту публичного выступления президента А.Г.Лукашенко и вынесут законное решение по этому поводу. Возможно, даже следственный комитет надо подключать. А проведение избирательной кампании по выборам в такой ситуации надо поручать Конституционному суду, который, на мой взгляд, уже столько времени не может найти себе достойного занятия, но получает за свое ничегонеделанье очень приличное жалованье за счет граждан Беларуси...

**Анатолий Иванович СТЕПАНЕНКО, ветеран труда Белорусского металлургического завода.**

*г.Жлобин.*

ПАМЯТЬ

## *Знаете, каким он парнем был...*

*19 июня близкие, друзья, единомышленники простились с Борисом Звозсковым, который умер после продолжительной болезни на 64-м году.*



Ушел человек-легенда, человек-учитель, родоначальник правозащитного движения в Беларуси. Ушел, оставив целую школу своих последователей. Они приехали проститься с ним со всех уголков Беларуси, Украины, Польши. Прислали телеграммы из далекой Норвегии, России, Азербайджана, Литвы.

Борис Звозсков был человеком, который не рвался к должностям, славе, деньгам. Свою жизнь он посвятил общественному служению. Сначала сам стал мастером, закончив международные курсы по правам человека, потом — стал учить других. Он искал и растил правозащитников, показывал им пример.

В часы прощания у гроба стоял поток людей, которые говорили слова благодарности этому неприметному в повседневной жизни человеку.

Страна, запомни это имя — Борис Звозсков! Он мог стать первым Уполномоченным по правам человека. Мог, но не дождался такой возможности. Однако он сделал много для того, чтобы приблизить день, когда в Беларуси восторжествует законность и будут соблюдаться права человека.

Светлая память о Борисе Звозскове останется в сердцах его друзей и учеников. И, может быть, его именем назовут Дом прав человека, основанный в Вильнюсе, который со временем сменит заграничную прописку.

**Михаил ПАСТУХОВ, друг и единомышленник Бориса Звозскова.**

ФОТАФАКТ





Прайсці з бел-чырвона-белым сцягам па цэнтральнай плошчы сталіцы — так вырашыла адзначыць паўтара года з дня Плошчы-2010 мінская пенсіянерка **Ніна Багінская.**

Спадарыні Ніне 66 гадоў. Нарадзілася яна ў Мінску. Па адукацыі — геолаг. Кажа, што прафесія навучыла яе салідарнасці, бо адзін геолаг ніколі не выжыве, яму патрэбна падтрымка. У яе двое дзяцей — дачка і сын. А яшчэ ўнук і ўнучка.

На любыя акцыі Ніна Багінская выходзіць са сцягам і заўжды яго абараняе. Сцягі шые сама. 19 снежня 2010 года яе затрымалі на плошчы і далі штраф, які быў роўны чатыром яе пенсіям. Гэтым разам спецназаўцы жанчыну не чапалі.

ПРОШУ СЛОВА!

## *Предлагаю ввести месячники по реабилитации транспортных средств*

Я, Николай Евгеньевич Нестерович, законопослушный гражданин, в 2009 году приобрел на законных основаниях скутер. В 2009 году мопеды, скутеры продавались на тех же условиях, что и велосипеды.

Спустя некоторое время Госавтоинспекция стала требовать растаможку и регистрацию мопедов и скутеров. И вроде бы пошли навстречу тем, кто приобрел двухколесных лошадок до закона. В течение полугода владельцам скутеров и мопедов позволили регистрировать транспорт без таможенных документов на заявительной основе — до 1 августа 2011 года.

Но на деле вышел обман. Потому что полгода — это 180 дней, и, например, в Березино за это время представители МРО ГАИ при УВД Миноблисполкома приезжали только 6 раз. Т.е. один раз в месяц. Естественно, что выстраивалась очередь из желающих зарегистрировать свой мопед или скутер. Представители ГАИ приезжали, естественно, в будний день, следовательно, надо было отпрашиваться с работы. Кроме того, затем нужно было ехать в Минск получать регистрационный знак, т.е. еще раз отпрашиваться с работы. Но кто позволит трактору простоять два дня в поле или машине не работать?

Почему нельзя сегодня без документов зарегистрировать мопед 1990-го или других годов выпуска, который уже находился в эксплуатации до принятия закона? Уверен, найдется не одна сотня тех, кто эти полгода провел на стройках союзного государства в России или по другим веским причинам не смог зарегистрировать свой мопед. В конце концов у кого-то скутеры могли быть неисправны, значит, не смогли пройти техосмотр и получить госномер.

Предлагаю проводить месячники по реабилитации транспортных средств, которые выпущены до принятия этого закона. Милиция проводит аналогичные мероприятия по сдаче незарегистрированного оружия. Почему тогда нельзя придумать что-то аналогичное для владельцев мопедов и скутеров?!

**Николай Евгеньевич НЕСТЕРОВИЧ.**

*Березинский район.*

ДЕЛА ЖИТЕЙСКИЕ

## *Бордюр преткновения*

Лозунг “Государство — для народа” — это не про нас. У нас государство, где чиновник — для чиновника. Не то что на “больших людей”, на мелких начальников жаловаться бесполезно. Везде безразличие, бездушие, круговая порука. Устраиваешь собрание жителей, приглашаешь компетентные комиссии — безрезультатно.

К примеру, у нас в Витебске в октябре начали проводить ремонтные работы якобы по благоустройству тротуаров улицы Герцена. Устанавливали бортовой камень. Но его так установили, что не подойти к трамваю. А если выходишь из трамвая (особенно с детской коляской) — то не попасть на тротуар. Бордюр поставили очень высоко, неудобно, пожилые люди просто мучаются, пока через него переползут.

Конечно, мы жаловались, просили переделать. Но нам ответили, что в данном случае все сделано по инструкции.

Откуда эта тупая инструкция, чьи мозги ее придумали? Почему если делается что-то, то не для людей, а для галочки? Даже в такой малости, в такой мелочи.

Через газету хочу обратиться к руководству страны. Не закрывайте глаза на безобразия, которые творятся на местном уровне. От этого теряется и вера к руководству страны в целом...

**Валентина Викторовна ВОРОБЬЕВА.**

*Витебск.*

НАРОЧНО НЕ ПРИДУМАЕШЬ

## *«Отцы и дети» по-белорусски*

Уважаемая редакция!

Я, Вадим Иванович Козик, попал в рабство! У собственной матери! Заставляют вместе с моим шурином Николаем бесплатно работать.

В пятницу мы ставили забор, я поднимал шифер, носил песок, помогал держать столбы. В субботу тоже полдня работали. И ни копейки нам не заплатили. Позвонить не дают. Подключайте милицию.

**С уважением —**

**Вадим Иванович КОЗИК.**

*г.Любань.*

**ОТ РЕДАКЦИИ**

**Письмо настолько красноречивое, что не требовало бы никаких комментариев. Если бы в нашей стране, как снежный ком, не нарастала эта проблема отцов и детей. Даже депутаты Палаты представителей, которые недавно проводили встречи в Гомельской области, сообщают, что люди возмущены тем, как много работоспособных молодых мужчин находятся на содержании у своих престарелых родителей.**

ВАС ЦІКАВІЦЬ

## *І выбары пачаліся, і адказу няма*

***Вось ужо і чарговая выбарчая кампанія пачынаецца. А што з ініцыятывай Дзмітрыя Усса па ўнясенні змен у Выбарчы кодэкс? Ці зарэгістраваў Цэнтрвыбаркам ініцыятыўную групу?***

**Сяргей ТОЎСЦІКАЎ, г.Магілёў.**

Пытанне аб рэгістрацыі ініцыятыўнай групы па ўнясенні змен у выбарчае заканадаўства Цэнтрвыбаркам плануе разглядзець на пачатку ліпеня.

Былы кандыдат у прэзідэнты Дзмітрый Усс, як і абяцаў, падаў усе неабходныя дакументы ў Цэнтрвыбаркам яшчэ 28 мая. Адтуль дакументы накіравалі ў Мінюст, які і рыхтуе адказ на ініцыятыву.

Як паведамлялася раней, на думку экс-кандыдата ў прэзідэнты Беларусі Д.Усса, у артыкулы 34, 35 і 72 Выбарчага кодэкса неабходна ўнесці змены, каб кандыдаты маглі накіроўваць ва ўчастковыя камісіі сваіх прадстаўнікоў, спіс якіх павінен быць пададзены не пазней як за 15 дзён да галасавання.

Акрамя таго, на яго думку, члены камісій, якія прадстаўляюць кандыдатаў, павінны мець права ставіць свой подпіс на адваротным баку кожнага бюлетэня, што, на думку Дзмітрыя Усса, дазволіць пазбегнуць незаконнага ўкідвання бюлетэняў у скрыні падчас датэрміновага галасавання і фальсіфікацый падчас падліку галасоў.

*Ніл ГІЛЕВІЧ*

# Усё аб тым жа...

*Новыя вершы*

### Таго народа...

*Таго народа ўжо няма, няма, —*
*Таго, што сто гадоў таму задумаў*
*На волю выйсці з рабскага ярма,*
*Пазбыцца назаўсёды здзеку-глуму.*

*Таго народа ўжо няма, няма:*
*Часціну — расстралялі ў Курапатах,*
*Часціну — праглынула Калыма,*
*Часціна — спапялёна ў родных хатах...*

*Таго народа ўжо няма, няма!*
*Той — знік. Той — годнасць меў. Дык і не выжыў.*
*А ёсць... А ёсць — бязмоўная гурма.*
*У загарадзі. Пад аховай выжлаў.*

*Таго народа ўжо няма... Але!*
*Але ён здолее паўстаць нанова,*
*Калі ў душы ягонай на чале*
*Усіх святых парываў стане МОВА.*

### Цяжка ды важка...

*Помню, калісьці, школьнік вясковы,*
*Я напаткаў у “Чытанцы” словы:*
*“Цяжка ды важка жыць на радзіме,*
*Цяжка ды важка — як на чужыне...”*
*Словы, відаць, мне душу кранулі,*
*Бо памаўчаў і спытаў у матулі:*
*“Гэта — у нас, у роднай краіне,*
*Цяжка жывецца, як на чужыне?”*
*І мама сказала: “Як ні жывецца,*
*А ўсё ж і гамоніцца і пяецца*
*У родных слоўцах, у родных гуках,*
*У думах аб родных дзецях і ўнуках...”*

*Сталася так, што ва мне ўжо даўно*
*Тыя радкі “патанулі на дно”.*
*І вось на дажытку, на ўскрайку жыцця,*
*Памяць вярнула мне іх з забыцця:*
*“Цяжка ды важка жыць на радзіме,*
*Цяжка ды важка — як на чужыне...”*
*Як на чужыне? Ці ў сто разоў горш?*
*Калі б усяго толькі “як” — то чаго ж*
*У тую чужыну, у свет той інакшы*
*Пруцца-збягаюць дзетачкі нашы —*
*Ад родных гукаў, ад родных слоўцаў,*
*Ад родных гоняў пад родным сонцам?*

### Выбухайце, сябры, выбухайце!

*Вякамі нарастала неўтаймоўная*
*Энергія нацыянальна-моўная*
*І ўрэшце немасць рабскую ўзарвала*
*Такімі выбухамі, як Купала,*
*Як Колас, Багдановіч і Гарэцкі, —*
*І паліліся, забурлілі рэчкі*
*Паэзіі — наскрозь у веры Божай.*
*А мудрай! А праўдзівай! А прыгожай!..*

*Ад гэных выбухаў прайшло стагоддзе.*
*Зноў немату прарочыць нам Страхоцце,*
*Ды Мовы гул глыбінны не сціхае*
*І — ах жа, як магутна выбухае!*



### Перачытаўшы артыкул Л.А.Ламекі «Боль і сумленне Бацькаўшчыны»

*Каб гэтак адчуваць і разумець*
*Спрадонна-беларускі боль паэта —*
*Якія мукі ў сэрцы трэба мець*
*З-за гэтага ж! Праз гэтае ж! Праз гэта!..*

### Філолагу і педагогу Т.С.Нуждзіной

*Я знаю, адкуль у Вас любасць да роднага слова*
*І дзе Вашай годнасці, людскасці корань-аснова.*
*Усё пачалося ў маленстве, у хаце бабулі,*
*З той мовы, якую ад ранку да вечара чулі, —*
*І мудрасць адкрылася Вам, як сама немінучасць:*
*У мове, у мове — народнай душы неўміручасць!*
*О родная мова! Настаўніца мудрая знае,*
*Што нашую веру і нашую праўду яднае.*
*Дазвольце ж закончыць радком малітоўна нягучным:*
*Дай Бог Вашу мудрасць*
*засвоіць усім Вашым Вучням!*

### Во калі б гахнуць!..

***(Замест рэцэнзіі на “Вялікі слоўнік беларускай мовы” Ф.А.Піскунова)***

*Фёдар Антонавіч Піскуноў,*
*Не будучы навукоўцам вядомым,*
*Склаў слоўнік на чвэртку мільёна слоў*
*І выдаў — адным велічэзным томам.*

*Возьмеш у рукі — вось гэта вага!*
*Колькі ж тут золата ў кожным слоўцы!*
*Во калі б гахнуць ім як мага*
*Катораму з ёлупняў па дахоўцы!*

*Паразумнеў бы, напэўна, ураз*
*І не плявузгаў дурноцце дурное,*
*Што надта ж бедная мова ў нас*
*І думаць нам трэба на іншай мове.*

*2012*

БОЛЬ

# Совсем не до смеха

На собственном опыте убедилась: и при советской власти был не рай, а теперь и подавно.

Конкретный пример. Когда в конце 70-х меня, молодого специалиста, направили на работу в отдел народного образования, картина с кадрами там была такова. В штате — один экономист, несколько инспекторов и методистов (все — в одной комнате), пара-тройка бухгалтеров по учету материалов и чуть больше — по зарплате. А зайдите сегодня в любой такой отдел — что увидите? Множество кабинетов, масса народу при компьютерах —- штаты раздуты до невозможности. Словно цель всяческих реорганизаций (а их необходимость бывает очевидной) в данном случае была такая: трудоустроить в офисе как можно больше “единиц”.

Но ради чего, скажите? Любой непредвзятый человек, попроси его сравнить нынешний уровень обучения и знаний учащейся молодежи с прежним, скорее всего, ответит... Впрочем, ответ вы знаете сами. Ведь любые нововведения — при безусловной необходимости идти в ногу со временем, с жизнью в мире компьютеров и высочайших технологий хороши и дают эффект лишь тогда, когда делается упор на качество кадров, а не на их количество. Бездумному, равнодушному “количеству” и умнейшая техника не подмога. Уж если выпускник школы на экзамене при поступлении в престижный вуз (об этом писала “Народная Воля”) не может, к примеру, назвать дату начала Великой Отечественной войны, то о каком “уровне” тут говорить? А ведь юноша претендовал на то, чтобы, получив диплом, занять руководящее кресло в чиновничьей системе и учить уму-разуму нас с вами. Но разве такой “фрукт” — исключение?

Еще пример. Понадобилось моему больному отцу, ветерану войны, подлечиться в клинической больнице. Прихожу в 25-ю городскую поликлинику, узнаю: медкарту теперь на руки не выдают — только выписку из истории болезни, составленную дежурным врачом. Отсидела в очереди два часа и вижу: даром теряю время. У того врача дел невпроворот, медсестры нет, толпа перед дверью почти не рассасывается. А мне пора к малой внучке бежать. Ну, думаю, попрошу сделать выписку без меня, а потом забегу за ней. Да куда там! Низ-зя, только “в присутствии заказчика”. Не знаю, может, это и правильно, но излишняя бюрократия жизнь не облегчает.

Что толку от всяких пертурбаций и раздутости штатов проверяющих, контролирующих и издающих распоряжения, если от этого нам, простым людям, не легче?

Или вот такое. Два года назад, как раз перед очередной годовщиной Великой Победы, по решению Мингорисполкома ветеранов войны “поздравили”: попросту выкинули из отдельной очереди на жилье и перевели в обычную. Зачем тогда было переводить 80-летних и даже старше в эту бесконечную очередь, если — ясно же — большинство из них не доживет до исполнения своей надежды? Зачем было, спрашивается, эту надежду вселять и затем отнимать? Разве это не прямое издевательство, плевок в лицо людям, проливавшим кровь за Отечество в самый страшный час? Выходит, сталинский постулат “нет человека — нет проблемы” все еще в ходу? Если это не так, пускай бы кто-то из вершителей наших судеб поменялся, хоть на время, с моей семьей жильем.

В моей квартире проживает четыре (!) семьи, в том числе и дедушка-ветеран. Фактически живем в ней по очереди. Летом дедушка перебирается в деревню. А когда возвращается, то в ту деревню, уже в ненастную пору, вынужденно переезжает кто-то из детей...

Иду в квартирный отдел, чтобы прозондировать почву насчет строительства хотя бы однокомнатной квартиры. И что мне отвечают? Что под 3—5 процентов годовых ветераны войны строиться не имеют права. Зато такое право имеют милиционеры, судьи и прокуроры. Очень хорошо, рада за них! Но неужели ветеранам войны, выигравшим для нас с вами войну, до сей поры, почти через 70 лет после Победы, так ничего и не нужно и они не заслужили нормальной жизни хоть бы в конце своего пути? Мой отец уверен, что А.Лукашенко совершенно не знает, как обидели престарелых защитников Родины наши горящие на работе чиновники...

Сейчас, когда пишу эти строки, по телевизору объявили о новых правилах и процентах под кредиты. Поистине полчищу чиновников делать нечего! Пока государство будет оплачивать (и не скупо) видимость их бурной деятельности, оно так и будет стоять с протянутой рукой, выпрашивая кредиты по всему миру. На этот (и не только этот) счет в народе ходит немало анекдотов. Только почему-то не хочется смеяться. Ведь смеемся мы над кем? Сами над собой: не задумывались особенно, когда выбирали такое будущее.

**С уважением —**

**Галина С., минчанка.**

**P.S.** *Свою фамилию и адрес сообщаю редакции.*

